# Андрэ Мольро

**У ЗМАГАНЬНІ СУПРАЦЬ ЛЮДЗКАЙ НЕСПРАВЯДЛІВАСЬЦІ**

**АД РЭДАКЦЫІ: Ніжэй зьмяшчаем з падзякаю артыкул амэрыканскага журналістага, шэфа Беларускай Сэкцыі радыя «Вызваленьне» сп. Р. Шэнклэнда, прысланы ім спэцыяльна для «Бацькаўшчыны».**

У Маскве адчынены Другі Ўсесаюзны Зьезд савецкіх Пісьменьнікаў. Ад часу першага зьезду мінула дваццаць гадоў. Дваццаць гадоў, на працягу якіх гэтак званая «пралетарская дэмакратыя», якую Ленін абвесьціў сваей мрояй, павярнулася із шляху свайго разьвіцьця — якім-бы яно ня было — і прыняла канчальную форму аўтакратыі Сталіна ды ягоных вучняў — Маленкава й Хрушчова.

У палітычным жыцьці Савецкага Саюзу галоўнымі падзеямі за гэтых дваццаць гадоў была **яжоўшчына,** у часе якой «вызвольнікі людзтва» праводзілі масавыя забойствы сярод свайго собскага насельніцтва, ды пакт, падпісаны Молатавам і Рыбэнтропам. Гэтым пактам «вызвольнікі людзтва» ўступілі ў саюз з барбарскай дзяржавай і яе шалёным правадыром, якога ненавідзела ўсё людзтва, і гэтым самым далі гэтаму правадыру — Гітлеру — магчымасьць распаліць пажар сусьветнай вайны.

Гэтыя два факты раз і назаўсёды разбурылі цьверджаньні дыктатуры, быццам-бы яна імкнулася да «прагрэсыўных ідэялаў».

Вялікі францускі пісьменьнік **Андрэ Мальро** сказаў: «У чалавеку жыве глыбокая і жудасная надзея». Дваццаць год таму такія як Мальро прадстаўнікі інтэлігенцыі маглі яшчэ пакладаць надзею на ідэялы, абвешчаныя бальшавіцкай рэвалюцыяй. Бальшавізм быў новай плыняй, ён выступаў супраць старой несправядлівасьці, ён абяцаў стварыць лепшы — утопійны сьвет «пралетарскай дэмакратыі».

Але ўжо 20 год назад рэакцыйная пагарда да людзкай адзінкі вызірала спад «прагрэсыўнай маскі» бальшавізму. Аднак Андрэ Мальро, усё сваё жыцьцё натхнёны тым, што ён называў «змаганьнем супраць людзкай несправядлівасьці», быў настолькі заняты дробнымі выяўленьнямі несправядлівасьці ў сваім беспасярэднім акружэньні, што ня бачыў шмат большай несправядлівасьці, якая дзеілася ў вадлегласьці. Вочы яму адчыніла толькі бальшавіцкая літаратура. За апошніх 20 гадоў парадны мундзір «пралетарскай дэмакратыі» быў канчальна ськінуты. На працягу гэтых 20-і гадоў бальшавіцкая аўтакратыя масавымі праступствамі супраць чалавека, як адзінкі, адкрыта паказала сябе ўсяму сьвету, як аўтакратыя. Дваццаць гадоў таму Мальро і шматлікія дыктатары вялі чалавецтва да яснейшай будучыні. Але чалавецтва складаецца з паасобных людзей, а якая ясная будучыня можа быць для іх з масавых чыстак, паднявольнай працы, саюзу з фашыстымі, штучнага голаду, бязупыннага тэрору, пагарды да ўсіх людзкіх правоў і людзкай годнасьці? Мальро зразумеў, што гэта азначае нянавісьць да чалавека, якая ніколі ня можа легчы ў васнову змаганьня супраць людзкой несправядлівасьці. Наадварот — яна стварае гэту несправядлівасць.

Дваццаць гадоў таму Андрэ Мальро і 44 іншых замежных, больш або менш ведамых, гасьцей маглі прыняць удзел у Ўсесаюзным зьезьдзе савецкіх пісьменьнікаў і шчыра выказваць свае думкі. Тады Мальро мог яшчэ сказаць савецкім чыноўнікам, што, хаця ён адносіцца з сымпатыяй да агульнай праграмы, аднак яму здавалася, што яны ня маюць даверу да сваіх пісьменьнікаў. «Мне здаецца — сказаў ён — што гэта тлумачыцца тым, што вам не хапае зразуменьня культуры». Дзеля гэтага, паводля ягонай думкі, савецкія пісьменьнікі не змаглі даць у сваіх творах псыхалягічна выразных тыпаў, як гэта, напрыклад, рабіў Леў Толстой. Тады Мальро мог яшчэ гэтак гаварыць, тады, ня гледзячы на ўсе «ўхілы», ён мог стацца сябрам Максіма Горкага. Ці цяпер, у 21-м месяцы ўлады Маленкава і Хрушчова, ёсьць магчымая чэсная літаратурная дыскусія з такім «ухілам» на другім зьезьдзе пісьменьнікаў? Ці зможа падобны чужынец-«гэрэтык» стацца сябрам, напрыклад, Зошчэнкі? Ды й наагул, ці Зошчанка будзе на гэтым зьезьдзе?

Андрэ Мальро, які лічыцца, бадай, лепшым з сучасных францускіх пісьменьнікаў, стаў ведамы ўсяму сьвету сваімі двума раманамі: «Завасўнікі» і «Лёс чалавека», у васнову якіх лягло ягонае дасьветчаньне, як рэвалюцыйнага змагара ў Кітаі 30 гадоў таму. Абодва гэтыя раманы даюць яркі й жудкі абраз. Сымпатыі Мальро былі цалкам па баку кітайскіх рэвалюцыянэраў і іх эўрапэйскіх сяброў па зброі, гэта значыць па баку камунізму. Але ён быў занадта вялікім мастаком, каб зьвязаць сябе з абстрактнай дактрынай. У рамане «Заваёўнікі» ён апісвае агента Камінтэрну, Міхаіла **Барадзіна** (адзіны ўзяты з жыцьця пэрсанаж у кнізе), як выяўленьне марксыстоўскай обыякавасьці да жыцьця кажнага паасобнага чалавека, навет да свайго собскага. Пра Барадзіна адзін з гэрояў раману кажа: «Ён хоча тварыць рэвалюцыянэраў так, як Форд вырабляе самаходы». Другая цікавая фігура ў рамане «Заваёўнікі» — гэта чэкісты Нікалаеў, чалавек, які спэцыялізаваўся ў пытках павольным задушваньнем і прыводзіў свае ахвяры да прытомнасьці ладанам дзеля таго, каб іх мучыць далей. Мальро быў першым пісьменьнікам, які падкрэсьліў узрастаючы садызм у палітыцы нашага веку, гэта значыць тую тэндэнцыю, якая дасягнула свайго кульмінацыйнага пункту ў нацыстаўскіх крэматорыях і падвалах **Лубянкі.**

Але ягоныя кнігі поўныя глыбокай сымпатыі і спачуваньня да шырокіх народныя масаў. «На сьвеце ёсьць толькі дзьве расы — з сумам кажа адзін зь ягоных гэрояў — бедныя і іншыя».

Леў Троцкі напісаў рэцэнзію аб рамане «Заваёўнікі». Ён шмат што пахваліў у рамане, але й асудзіў аўтара за тое, што той ня кіраваўся стандартнай рэвалюцыйнай дактрынай. Адказ Мальро на гэту крытыку паказвае прычыны ягонага разрыву з бальшавізмам. «Мая кніжка — пісаў Мальро — толькі перадусім зьвяртае ўвагу на суадносіны паміж паасобнымі людзьмі і калектыўным дзеяньнем, а не на адно калектыўнае дзеяньне». Варта адцеміць, што раман «Заваёўнікі» Сталін забараніў распаўсюджваць як антыкамуністычны, і Мусоліні — як пракамуністычны.

Калі ў трыццатых гадох пагроза нямецкага фашызму стала відавочнай, Андрэ Мальро напісаў раман «Дні гневу». Гэта кніжка была першым выдатным творам францускай літаратуры, у якой апісваюцца нацыстаўскія канцлягеры перад вайной зь іхнымі ўсякімі зьверствамі. Няшмат хто з эўрапэйцаў верыў у гэтыя жудасныя вобразы, бо ніхто раней аб чымсь падобным ня чуў.



У часе грамадзянскай вайны ў Гішпаніі, Мальро, як лётнік, браў удзел у 65-і паветраных апэрацыях. Ён змагаўся на баку ляялістых і вызначаўся вялікай адвагай.

За ўсе гэтыя гады ў ім выпрабіліся рысы пісьменьніка, шукальніка прыгодаў і палітычнага дзеяча. На аснове сваіх перажываньняў у часе вайны ў Гішпаніі ён напісаў прыгожы раман «Надзея». Гэты раман — ягоны апошні твор, у якім можна яшчэ дашукацца камуністычных пaглядаў. Хутка пасьля гэтага ён зразумеў, што ягонае доўгае змаганьне з людзкай несправядлівасьцяй павінна таксама агарнуць і змаганьне супраць забойцаў пэрыяду «яжоўшчыны» і ціхіх саюзьнікаў Гітлера ў распальваньні другой сусьветнай вайны — Сталіна й ягоных вучняў.

У часе другой вайны Мальро бязупынна біўся з фашыстымі — спачатку як жаўнер францускіх танкавых войскаў, а пасьля разгрому Францыі, як адзін з найсьмялейшых і дзейных сяброў францускага руху супраціву. Два разы ён трапляў у фашыстаўскі палон і некалькі разоў быў ранены. Пасьля вайны Андрэ Мальро цесна супрацоўнічаў з генэралам дэ Голем, начальнікам францускай вызвольнай арміі. Дэ Голь па першай сустрэчы з Мальро сказаў: «Нарэшце я бачыў чалавека!»

Чаму Мальро ў сваім часе верыў у бальшавіцкую дыктатуру? Таму што ў неспакойны пэрыяд паміж дзьвюма сусьветнымі войнамі ён жыў перакананьнем, што чалавек павінен змагацца зь несправядлівасьцьцяй, каб ратаваць цывілізацыю — а ленінская ідэя «пралетарскай дэмакратыі», здавалася-б, давала гэту глыбокую й жудасную надзею на гэты ратунак. Але чаму Андрэ Мальро парваў з бальшавіцкай дыктатурай? Бо аўтакрацыя Сталіна і ягоных вучняў — Маленкава, Хрушчова — праз сваю поўную пагарду да чалавека-адзінкі сталася самай моцнай зброяй людзкай несправядлівасьці, сталася гэтай стыхійнай сілай, супраць якой трэба ратаваць цывілізацыю.

**Р. Шэнклэнд**

# Палітычны білянс мінулага году

**(Заканчэньне зь 1-ай балоны)**

тыкі. Міністар замежных справаў Ідэн на працягу аднаго тыдня аб'яжджае шэсьць эўрапэйскіх сталіцаў тых дзяржаваў, што меліся быць удзельнікамі эўрапэйскае арміі, вядзе перагаворы, узгоднівае пляны, каб трохі пазьней на Лёнданскай канфэрэнцыі 9-ці заходніх дзяржаваў, што адбылася ў канцы верасьня і ў пачатку кастрычніка, прывесьці да пагадненьня ў справе стварэньня, на месцы Эўрапэйскай Абароннай Супольнасьці, Заходня-Эўрапэйскай Вуніі, што потым было завершана падпісаньнем Парыскіх пагадненьняў 22 кастрычніка.

Бліскучую ўдачу гэтых дзьвюх канфэрэнцыяў трэба заўдзячваць у першую чаргу Вялікабрытаніі, якая ўзяла на сябе ўсю ініцыятыву і пастанавіла ў часе міру зьвязацца мілітарна з эўрапэйскім кантынэнтам, згаджаючыся трымаць на ім свае збройныя сілы і гэтым даючы Францыі гарантыі перад небясьпекай перавагі нямецкіх збройных сілаў у Заходня-Эўрапэйскай Вуніі. Гэтым самым Вялікабрытанія вярнулася ўдачна да вялікай палітыкі і ў справах эўрапэйскіх перабрала ад Амэрыкі ініцыятыву ў свае рукі.

Парыскія пагадненьні яшчэ чакаюць на ратыфікацыю бальшынёю эўрапэйскіх дзяржаваў, удзельнікаў Вуніі, вырашальнае слова аб чым мае яшчэ ў канцы бягучага году сказаць Францускае Нацыянальнае Сабраньне. Між камуністычным Усходам і Захадам разыгрываецца цяпер нязвычайна інтэнсыўнае змаганьне за Заходня-Эўрапэйскую Вунію і ўзбраеньне Нямеччыны. Масква пасылае заходнім дзяржавам ноту за нотай, у якіх пагражае, што ў выпадку ратыфікацыі новых дагавораў будзе канчальна пахаваная справа задзіночаньня Нямеччыны, а Францыя астанецца пад няўхільнай загрозай адроджанага нямецкага мілітарызму. На скліканай 29 лістапада ў Маскве канфэрэнцыі «агульнаэўрапэйскай бясьпечнасьці», у якой прыймалі ўдзел толькі дзяржавы камуністычнага блёку, было заяўлена, што адказам на ратыфікацыю парыскіх дагавораў будзе ўзмацненьне збройных сілаў савецкага блёку і будзе створанае супольнае калектыўнае вайсковае камандаваньне. Молатаў, выкарыстоўваючы нагоду дзесяцігодзьдзя пакту савецка-францускай прыязьны, 10 сьнежаня загразіў Францыі, што ратыфікацыя ейным парлямантам дагавору аб Заходня-Эўрапэйскай Вуніі перакрэсьліць далейшую важнасьць успомненага пакту.

Няма сумлеву, што ратыфікацыя будзе мець у Францыі шмат праціўнікаў і можа прайсьці ў даволі драматычных умовах. Аднак усе сымптомы гавораць за тым, што францускі прэм'ер Мэндэз Франс здабудзе бальшыню і ратыфікацыя будзе забясьпечаная.

Гэтак на заходняэўрапэйскім адрэзку Захад, — калі ня станецца яшчэ чагось непрадбачанага — замкне 1954 год не малымі сукцэсамі. Тут палітычная перавага становіча на ягоным баку.

Горш прадстаўляецца справа ў Азіі, на паўдзённа-азіяцкім адрэзку фронту нядаўна гарачае, а сяньня халоднае вайны. Тут перавага астаецца на баку камуністых, якія ўтрывалілі сваё становішча ў Паўночнай Карэі, аб задзіночаньні якой мірным шляхам ня можа быць і мовы, здабылі паўночную палавіну Ветнаму, заняўшы гэтым выгодныя выпадовыя пазыцыі для далейшай агрэсіі, ды ўзмоцнілі свой націск на Фармозу з выразнаю мэтаю яе апанаваньня. Спачатныя бальшавіцкія пляны, што апанаваньне імі цэлага сьвету будзе забясьпечанае, калі ў іхных руках знойдзецца Азія, або, як пакінуў у сваім запавеце Ленін, што шлях у Бэрлін вядзе цераз Пэкін, знаходзяцца, на жаль, у стадыі поўнай рэалізацыі.

Гэтых удачаў камуністых ня можа ў ніякім выпадку зраўнаважыць паўстаньне Абароннага Пакту Паўдзённа-Ўсходняй Азіі, падпісанага ў гэтым годзе, і гэта зь дзьвюх прычынаў. Паперше, пакт гэты ўключае ў сябе толькі дзьве азіяцкія дзяржавы, бо дзяржавы блёку Колёмбо, што, за прыкладам Індыі, стараюцца захаваць нэўтральнасьць, да гэтага пакту ня прыступілі; іншыя-ж, выразна антыкамуністычныя дзяржавы, як Паўдзённая Карэя, Фармоза Чан-Кай-Шэка і Японія, на дамаганьне Вялікабрытаніі ня былі да яго допушчаныя, а яшчэ іншыя, як Ветнам, Ляёс і Камбоджа, не маглі быць уведзеныя ў склад гэтага пакту на падставе пастановаў аб перамір'і ў Індакітаі. Дык у той час, калі Заходняя Эўропа творыць супольны і скаардынаваны антыкамуністычны фронт, некамуністычныя дзяржавы Азіі зьяўляюцца такой каардынацыі пазбаўленыя. Падругое, Абаронны Пакт Паўдзённа-Ўсходняй Азіі, у вадрозьненьне ад Атлянтычнага Пакту, зьяўляецца даволі слабкім саюзам паасобных дзяржаваў, ваенная контраакцыя якіх на выпадак камуністычнай агрэсіі ня можа распачацца аўтаматычна, але толькі пасьля індывідуальных пастановаў паасобных дзяржаваў.

Пацяшаючай азнакай у далёкаўсходняй палітыцы Захаду было падпісаньне 2 сьнежаня між Амэрыкай і нацыянальным кітайскім урадам Чан-Кай-Шэка пакту ўзаемнай абароны і бясьпечнасьці. Гэты пакт быў адказам на тайны мілітарны дагавор між Масквой і Пэкінам, у якім было ўзгодненае мілітарнае супрацоўніцтва і задэкляраванае падтрыманьне Масквой чырвонага Кітаю ў ягоных прэтэнсіях да Фармозы. Палітычна-мілітарнае значэньне гэтага пакту палягае ў тым, што ён дае праўную аснову да выступаньня Амэрыкі ў вабароне Фармозы, якая цяпер ня можа стацца прадметам палітычнага гандлю. Таксама пакт гэты ўстабілізоўвае амэрыканскую палітыку на Далёкім Усходзе, якая будзе станоўча імкнуцца да паўстрыманьня далейшага пашырэньня камунізму ў паўдзённа-ўсходняй Азіі.

Вялікую віну за няўдачы Захаду на Далёкім Усходзе панэсіць, як ведама, Вялікабрытанія. Дзеючы згодна з Амэрыкай у пытаньнях Заходняе Эўропы і праявіўшы тут апошнім часам шмат карыснае ініцыятывы, у пытаньнях Далёкага Ўсходу Вялікабрытанія вядзе сваю собскую, адменную ад амэрыканскай і часта супярэчную апошняй, палітыку. Вялікабрытанія, існаваньне якой залежыць ад наяўнасьці дастатковых рынкаў збыту, ня можа адмовіцца ад гандлю зь Кітаем і ўсякімі спосабамі, навет за кошт палітычных канцэсіяў, імкнецца да яго пашырэньня. З другога боку Лёндан ня зрокся надзеі, што як найбольш лагоднай і кампрамісовай палітыкай у дачыненьні да камуністычнага Кітаю ўдасца яго вырваць з арбіты ўплываў Савецкага Саюзу. На колькі такая палітыка будзе мець у будучыні рэальныя карысьці, сяньня гаварыць перадчасна. Бясспрэчна, было-б вялізарнай перамогай Захаду, калі-б збыліся надзеі Лёндану і Мао-Тсэ-Тунг пайшоў сьлядамі югаслявянскага Ціты. Але да сяньняшняга дня гэтая палітыка, апрача адных мінусаў і няўдачаў, нічога іншага Захаду не дала.

Гэтак выглядае агульны гадавы білянс сусьветнае палітыкі на найважнейшым ейным адрэзку — на адрэзку халоднае вайны між камуністычным Усходам і дэмакратычным Захадам. Захад, як бачым, замыкае стары год і ўваходзіць у Новы 1955 Год із бясспрэчнымі вялікімі дасягненьнямі, хоць канчальна яшчэ незавершанымі, якія галоўна датычаць Заходняе Эўропы, але таксама і з паважнымі стратамі ў Азіі. Таму сяньня цяжка рабіць нейкія прагнозы, што нам можа прынесьці Новы Год. Астаецца толькі верыць, што раней ці пазьней мусяць перамагчы дабро, праўда і справядлівасьць над сіламі зла, нявольніцтва і насільля. Такі ўжо спрадвечны закон гісторыі. Ажыўленыя і ўзбадзёраныя гэтай верай, мы й распачынаем Новы Год.

**Язэп Каранеўскі**

---

**Якуб Колас**

# Сымон Музыка

**ПАЭМА**

## Канчатак у першай рэдакцыі

18)

— Ты туды хіба, хлапчук? —
Ў бок гасподы павярнулась:
— Дарма-ж ты ідзеш, дзяцюк,
Апазьніўся, небарача;
І тут лёс твой — у куце:
Больш дзяўчына не заплача
Па музыку-сіраце! —
Штось нядобрае ў тых словах
Сэрцам хлопец тут пачуў,
Самы тон яе прамовы,
Бы нажом, яго кальнуў.
— Што-ж такое, бабка, зь ёю?
І з трывогаю чакаў
Ён адказу на пытаньне,
Сумна зьнікшы галавой.
— Ой, вы, моладзь! вам каханьне
Засланяе ўсё сабой!
Праз каханьне-ж —дур вялікі,
З таго дуру сьвет гарыць:
З-за бязроднага музыкі
Ня ўздужала дзеўка жыць! —
Далей хлопец быў ня ў сілах
Чуць Аршуліных прамоў,
Бы спынілася у жылах
І у сэрцы ў яго кроў.
Твар зьмярцьвеў, уніклі сілы,
Сьвету белага ня знаць,
І над хлопцам свае крылы
Ночка стала разьнімаць . . .
Глуш. У небе месяц поўны
Бляск таёмны свой бруіў.
Змрок тужлівы, ціхі, роўны
Землю зьніклую акрыў.

І было вакол маркотна,
Бы тулялася гаротна
Няуцямная туга,
Ахінуўшы мімалётна
Сумам поле, лес, луга.
І маўчала ўсё зацята,
Ўсё стаілася — ні шэп!

Поўнач. Жуд. Страхоў багата,
Чорны лес маўчаў, бы склеп;
Толькі зрэдку смутным сьмехам
Ціш будзілі бакасы
І ўтарылі ціхім рэхам
Жаб у багнах галасы.
Чый-жа гэта цень матнуўся
Там, на могілках глухіх?
Чалавек ці здань прыгнуўся
Паміж прыкладаў гнілых,
Хто у поўнач парушае
Сон пахованых навек?
І чаго ён там шукае?
Хто ён? Здань ці чалавек?
Цяжкай весткай прыгнячоны
І аглушаны, Сымон
Без развагі, праз загоны
Йшоў, зацяўшы сэрца стогн.
Йшоў нячула, спатыкаўся,
Ў ямы падаў, зноў ўставаў,
А куды ён падаваўся,
Сам ня ведаў, ня пытаў.
Бы яго якая сіла
Няпрытомнага вяла
І туды яго хіліла,
Дзе мо й думка ня была.
А нарэшце зварачае
Ён у бок старых крыжоў
І на могілкі ступае
Ў гурт нямых вартаўнікоў.
Прыпыніўся, азірнуўся,
Бы стаў ў памяць прыхадзіць
І раптоўна здрыгануўся:
Перад ім яна стаіць!
Нярухома і маўкліва,
Ўся бялюсенька, як сьнег,
Толькі вусны ёй шчасьліва
Аджыўляе ціхі сьмех.
— Ганна?! — Крок ён адступае:
Ты запраўдная ці зман?
Што-ж за сіла, моц якая
Напусьціла мне туман? —
Бы замёр Сымон зьдзіўлёны,
Ці то радасьць, ці то страх,
І гарыць агонь зялёны
Ў яго стомленых вачах.
І на здань — плод ўласных мараў,
Брэд балючай галавы,
Пазірае, поўны чараў,
Нярухомы, ледзь жывы.
Потым вочы праціраe,
Як-бы хоча сон прагнаць,
Як што ловіць, спамінае
І ня можа рады даць.
— О, мой мілы, мой жаданы! —
Чуе голас ён яе: —
Ня пужайся свае Ганны:
Я — ня здань, ня вобраз зманны —
Цела сьпіць, а дух ўстае.
Я — той вобраз, што ў дарогах
З думак ты сваіх стварыў,
І ў палёх, глухіх разлогах,
Бавіў час і ім ты жыў . . .
Бедны мой! ты так змардован
І пакрыўджаны людзьмі
І нядоляй моцна скован.
Аплыла душа сьлязьмі,
Кроўю сэрцайка абліта.
Ты-ж адзін, адзін блукаў,
Як убогі, ледзь акрыты,
Слова ласкі ты ня знаў.
Адпачынь-жа тут з дарогі,
Гора цяжкае разьвей,
Хай спакой пазнаюць ногі . . .
Сядзь са мною, як даўней.
А з табой я так шчасьліва —
Я твая даўно, Сымон . . . —
— Адкажы ты мне праўдзіва,
Хто ты: здань ці гожы сон?
Ня пытайся, мой адзіны,
Думкам волі не давай:
Шчасьця сьветлыя часіны
Ты пытаньнем ня пужай . . .
Любы мой! Ё ў сьвеце рэчы,
Што як толькі іх кране
Войстры розум чалавечы,

